Выходзіць з 20 снежня 1945 года

# Настаўніцкая газета

№ 58 (5389)
Субота, 18 мая 2002 года

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Заўтра — 80 гадоў з дня нараджэння піянерскай арганізацыі

## Сустрэча з гісторыяй

***Напярэдадні Дня Перамогі ў многіх сталічных школах адбыліся ўрачыстыя сустрэчы школьнікаў з ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны. Такія сустрэчы нярэдка суправаджаліся святочнымі культурнымі праграмамі і нядаўна адноўленым рытуалам савецкіх часоў - прыёмам пяцікласнікаў у шэрагі Беларускай рэспубліканскай піянерскай арганізацыі. Карэспандэнт нашай газеты пабываў на адной з такіх урачыстасцей у мінскай сярэдняй школе № 33.***

Адразу было відаць, што да свята настаўнікі і вучні 33-й мінскай школы рыхтаваліся сур'ёзна, загадзя і з усёй адказнасцю. Яркая канцэртная праграма, прадстаўленая ветэранам Вялікай Айчыннай вайны, стала лепшым таму пацверджаннем. Разнастайныя па змесце нумары праграмы (адчувалася, што школа - з харэаграфічным ухілам) цешылі душу і сэрца срэбнасівым бабулям і дзядулям, што прыйшлі ў 33-ю павіншаваць і павіншавацца, павязаць кагорце пяцікласнікаў піянерскія гальштукі, пачуць словы ўдзячнасці за свой подзвіг ад вучняў і педагогаў школы і ў сваю чаргу сказаць такія ж удзячныя словы ім за ўвагу і павагу.

А пачаткам усяго вялікага святочнага дзейства сталася наведванне дэлегацыяй ветэранаў Партызанскага раёна сталіцы (на чале з Героем Савецкага Саюза Іванам Ільічом Кіставым) школьнага музея народнай культуры "Колаварот" (пра яго, дарэчы, ужо расказвала нашая газета) і пакуль невялікага кутка будучага музея баявой славы. Гэта сапраўды так: у 33-й школе ёсць па сутнасці два музеі. Зрэшты, тут няма нічога дзіўнага. "Вандруючы па беларускіх вёсках і збіраючы экспанаты для музея народнай культуры, нашы дзеці знаходзілі не толькі прадметы традыцыйнага народнага побыту, але й рэчы з часоў Вялікай Айчыннай, - патлумачыў намеснік дырэктара школы Андрэй Мікалаевіч Крук. - Так і назбіраліся вось гэтыя гільзы, рэшткі салдацкіх касак, ваенныя фота і іншыя прадметы. Іх пакуль няшмат, па сённяшніх нарматывах для стварэння школьнага музея неабходна мець як мінімум сто музейных адзінак, але для музейнага кутка - у самы раз".

"Любіць Радзіму, быць добрым, сумленным і справядлівым, захоўваць традыцыі і статут піянерскай арганізацыі" — хіба састарэлі гэтыя "традыцыйныя" лозунгі для сённяшніх дванаццацітрынаццацігадовых?!

Так, гісторыя мае ўласцівасць нагадваць пра сябе абсалютна нечакана, асабліва ў тыя моманты, калі забываеш пра яе канкрэтнасць і часавасць. Рэч не ў гэтым. Рэч у тым, каб быць гатовым да сустрэчы з ёю. Гэта зразумелі ў 33-й школе настаўнікі і вучні. Можа быць, таму тут і "ўжываюцца" два такія розныя, але паяднаныя самой гісторыяй музеі. Можа быць, таму тут і ўзнаўляюцца забытыя традыцыі, а на светлы дзень 9 мая з радасцю сюды прыходзяць ветэраны са сваёй Гісторыяй.

**Мікола ЧЭМЕР.**

## Сучасныя нашчадкі цімураўцаў

***Адно з самых лепшых памяшканняў у сярэдняй школе №5 Жлобіна адведзена самай масавай і самай "старой" дзіцячай арганізацыі - піянерскай. І памяшканне, на ўваходных дзвярах якога напісана "Піянерскі пакой", фактычна ніколі не бывае пустым. Вось і ў дзень майго наведання гэтай навучальнай установы тут праходзіў Савет дружыны.***

Роўна ў прызначаны час хлапчукі і дзяўчынкі ў чырвоных гальштуках (некаторыя з іх мелі таксама зялёныя, сінія або белыя нашыўкі) запоўнілі свой "штаб". Старшыня Савета дружыны, сапраўдны лідэр піянераў Алена Даўгун, адкрыла пасяджэнне. І хаця на пасяджэнне піянеры былі запрошаны дырэктар школы Людміла Мікалаеўна Шолак, намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце Святлана Эдуардаўна Ласоцкая, а таксама сацыяльны педагог Валянціна Сцяпанаўна Панчанка, падлеткі не бянтэжыліся, пачувалі сябе сапраўднымі гаспадарамі становішча.

А размова ў юных піянераў была важная. Самым галоўным пытаннем, якое з усёй сур'ёзнасцю абмяркоўвалі хлапчукі і дзяўчынкі з чырвонымі гальштукамі (дакладней, лепшыя васемнаццаць прадстаўнікоў піянерыі), было святкаванне юбілею гэтай арганізацыі. Да таго ж напярэдадні Дня піянерскай арганізацыі, 19 мая, у школе праходзіць прыём у "наследнікі" новых членаў БРПА (Беларускай рэспубліканскай піянерскай арганізацыі).

Да гэтай хвалюючай падзеі ў сваім жыцці чацвёртакласнікі пад кіраўніцтвам сваіх важатых Вікторыі Смалявой і Аліны Котавай пачалі рыхтавацца фактычна з 1 верасня: вывучалі піянерскія законы, гісторыю арганізацыі, піянерскія песні. Аўтару гэтых радкоў пашчасціла бачыць своеасаблівыя заявы дзяцей аб жаданні стаць членамі піянерскай арганізацыі. Усе яны былі прыгожа аформлены, утрымлівалі звесткі аб традыцыях і задачах піянерыі. Асобным радком была запісана згода бацькоў аб уступленні сваіх дзяцей у члены БРПА. Не ўсе вучні 4 класа пажадалі стаць піянерамі (28 чалавек з 31). І гэта зразумела: быць піянерам - значыць быць першым. Лепшыя прадстаўнікі арганізацыі кожны месяц заносяцца ў школьную Кнігу гонару. Таму і стараюцца дзеці праявіць сябе, тым больш што кіраўніцтва школы ідзе насустрач іх пажаданням.

Вось і на Савеце дружыны было вырашана правесці дыскатэку для "наследнікаў". Тут жа размеркавалі і абавязкі: які атрад займаецца падборам музыкі, які - арганізацыяй конкурсаў, хто адказвае за захаванне парадку, а хто - за ўборку памяшкання пасля заканчэння мерапрыемства. Прымаючы ўдзел у пасяджэнні Савета дружыны, я бачыў, што піянеры самі вырашаюць свае праблемы, на справе паказваючы, якія моцныя піянерскія традыцыі ў гэтай навучальнай установе.

Слушныя прапановы па арганізацыі святочнага піянерскага кастра ўнеслі намеснік старшыні Савета дружыны Наталля Анікеева, старшыня савета атрада 8 "В" класа Алена Купцова. У гонар 80-годдзя піянерскай арганізацыі піянеры сярэдняй школы №5 вырашылі здзейсніць двухдзённы паход. Прычым маршрут гэтага паходу яны выбралі з чатырох прапанаваных шляхам прамога галасавання: Жлобін - Мормаль - Каратковічы - рака Ола - Дзеднае - Сельнае - Жлобін. Тут жа, у гэты дзень, было вырашана заняцца падрыхтоўкай да паходу. Адным з заданняў Савета дружыны для кожнага атрада стаў адбор матэрыялаў аб населеных пунктах рэгіёна.

Была заслухана справаздача старшынь Саветаў атрадаў аб падрыхтоўцы да фестывалю піянерскай песні. Было прыемна бачыць, што ўсе піянерскія атрады рыхтуюцца да яго самым сур'ёзным чынам. Абмеркавала на сваёй нарадзе піянерыя і пытанні аб пасадцы піянерскай алеі на школьным двары, аб конкурсе малюнкаў.

У гутарцы з дырэктарам школы я даведаўся, што адміністрацыя навучальнай установы ніколі не спыняла работы з гэтай грамадскай арганізацыяй. Нават у часы дзевяностых, калі фактычна піянерскі рух перастаў існаваць, у сярэдняй школе №5 працягвалі падтрымліваць піянерыю літаральна напаўлегальна. Менавіта таму сёння ў гэтай школе налічваецца дзевяць піянерскіх атрадаў, у якія ўваходзяць 219 дзяцей.

Работа піянерыі будуецца на аснове рэспубліканскай праграмы БРПА, гэта значыць па пяці напрамках: "Сем Я" (самапазнанне і самаразвіццё членаў БРПА), "Дзіцячы ордэн "Міласэрнасці" (работа цімураўская), "Гульня - справа сур'ёзная" (захаванне і развіццё дзіцячай гульневай культуры), "Спадчына" (краязнаўчая і экалагічная дзейнасць), "Наследнікі" (работа з малодшымі школьнікамі). Паводле слоў сацыяльнага педагога Валянціны Панчанка, праграма піянерскай арганізацыі поўнасцю адпавядае інтарэсам школьнікаў і справе выхавання. Фактычна толькі БРПА мае свой зарэгістраваны статут і дакладныя напрамкі дзейнасці. Нездарма піянерская дружына сярэдняй школы №5 Жлобіна з'яўляецца лепшай не толькі ў раённым цэнтры, але і ва ўсёй Гомельскай вобласці. Пра гэта красамоўна сведчаць шматлікія дыпломы і граматы. Пра тое, што кіраўніцтва школы не памылілася, захаваўшы нават у часы перабудовы піянерскую арганізацыю, гаворыць і той факт, што менавіта піянерыя гэтай навучальнай установы з'яўляецца натхняльнікам цікавых спраў не толькі ў сваім мікрараёне, але і ў горадзе. І гэта лепшая падзяка ўсім тым, хто здолеў на такі высокі ўзровень узняць вучнёўскае самакіраванне ў школе.

**Аляксандр ІВАНЬКОЎ.**
Жлобін.





Тройчы ўзнімаліся на вышэйшую прыступку п'едэстала гонару на першым этапе Кубка свету па велатрэку ў горадзе Мантэрэй (Мексіка) беларускія спартсмены. Сярод пераможцаў этапа ў гонцы праследавання на 4 км быў і выхаванец віцебскіх СДЮШАР прафсаюзаў і вучылішча алімпійскага рэзерву Дзмітрый Аўласенка.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.**

Веcткі

## Падведзены вынікі конкурсу

***Падведзены вынікі конкурсу "Еўрапейскі Саюз у XXI стагоддзі", які праводзіўся ў межах праграмы TACIS Еўрапейскага Саюза.***

Усяго ў конкурсе ўзялі ўдзел 36 студэнтаў. Яны прадстаўлялі амаль усе буйныя ВНУ нашай краіны.

Журы, у склад якога ўвайшлі спецыялісты ў галіне еўрапейскай інтэграцыі, заўважыла прыемную адметнасць прадстаўленых на конкурс работ - вельмі нямногія з іх выкананы ў традыцыях студэнцкіх курсавых, - і пры ацэнцы кіравалася такімі крытэрыямі, як арыгінальнасць выкладу, узровень валодання матэрыялам, ступень самастойнасці. Што датычыцца тэматычнага боку конкурсных работ - гэта самыя разнастайныя аспекты з жыцця Еўропы, а Еўрапейскі Саюз у іх трактуецца як утварэнне, заснаванае не толькі на эканамічных інтарэсах, але і на агульнай культуры.

Урачыстая цырымонія ганаравання пераможцаў адбылася ў Цэнтры еўрапейскай дакументацыі і інфармацыі Белдзяржуніверсітэта. Лепшымі сталі Мікалай Лукша - магістрант Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта, Ірына Цыбульская - студэнтка пятага курса Гомельскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута і Зінаіда Радко - першакурсніца факультэта прыкладной матэматыкі і інфарматыкі БДУ. Да таго ж, журы прызнала, што агульны ўзровень усіх работ - даволі высокі, і таму вылучыла яшчэ аднаго пераможцу: заахвочвальны прыз атрымаў Ігар Кольчанка - студэнт чацвёртага курса факультэта міжнародных адносін БДУ.

**Іна НІКІЦЕНКА.**

## Падзяліліся вопытам

***Стала штогадовай традыцыяй правядзенне Тыдняў адкрытых урокаў, у час якіх настаўнікі вышэйшай і першай катэгорыі дзеляцца з калегамі сваім педагагічным вопытам. Сёлета такія тыдні праходзілі спачатку на базе сярэдняй школы № 2 Чавусаў, затым - сярэдняй школы № 1 Чавусаў (для настаўнікаў раёна) і нарэшце ва ўсіх астатніх школах з запрашэннем уласных педкалектываў.***

Такая практыка разлічана не толькі на маладых спецыялістаў, каб аблегчыць ім авалоданне прафесіяй. З задавальненнем наведваюць адкрытыя ўрокі і педагогі са стажам. Настаўнікі , якія праводзілі такія заняткі, імкнуцца зрабіць іх нестандартнымі, прадэманстраваць самыя разнастайныя метадычныя прыёмы.

Удалымі ў гэтым сэнсе атрымаліся ўрокі ў настаўнікаў пачатковых класаў сярэдняй школы № 2 Н.Т.Касцюкевіч, Т.А.Кісялёвай, якія скарысталі форму ўрокаў-падарожжаў. А вось В.П.Перапечкіна аддала перавагу ўроку-даследаванню.

Сучасныя адукацыйныя тэхналогіі прадэманстравалі калегам і настаўнікі гарадскіх школ, якія выкладаюць у старшых класах. Гэта і модульныя ўрокі па геаграфіі, урок па тэхналогіі рознаўзроўневага навучання, урок - педагагічная майстэрня і шэраг іншых.

Такі абмен вопытам, вядома, не ідзе ні ў якое параўнанне з вывучэннем той або іншай тэхналогіі па метадычных распрацоўках.

**Ала ІСАЕНКА,**
**загадчыца Чавускага раённага метадычнага кабінета.**

## Сімвал самавызначэння нацыі

***Сёння сусветная культурная грамадскасць адзначае Міжнародны дзень музеяў. Мы віншуем са святам усіх беларускіх музейшчыкаў, сярод якіх, дарэчы, ёсць нямала аўтараў нашай газеты, і прапануем нашым чытачам інтэрв'ю з галоўным спецыялістам па музеях Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Галінай ЛАДЗІСАВАЙ.***

**- Галіна Пятроўна, дазвольце пачаць з афіцыйнага: напярэдадні Дня Перамогі Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка наведаў Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Наколькі мне вядома, візіт меў не толькі сімвалічна-азнаямляльны характар...**

- Так. Падчас візіту быў узняты шэраг праблем, з якімі сутыкнуўся апошнім часам Белдзяржмузей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. У першую чаргу, гэта - праблема фондасховішчаў. Справа ў тым, што ў будынку музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны размешчаны фондасховішчы яшчэ двух музеяў: Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі і Музея прыроды і экалогіі Беларусі (апошні наогул не мае ўласнай плошчы). Асноўныя фондасховішчы знаходзяцца ў падвальным і цокальным паверхах, дзе недзе з сярэдзіны 80-х з-за будаўнічых дэфектаў пачала дэфармавацца падлога, у сценах з'явіліся трэшчыны. У выніку шматлікія унікальныя экспанаты аказаліся ў абсалютна неналежных умовах з павышанай вільготнасцю, што прыводзіць да іх пашкоджання і паступовага разбурэння. Гэткая сітуацыя не магла не занепакоіць Прэзідэнта. У выніку ім былі дадзены даручэнні Міністру культуры Леаніду Гуляку і мэру сталіцы Міхаілу Паўлаву да канца мая ўнесці рэальныя прапановы па выдзяленні будынка для Музея прыроды і экалогіі Беларусі і памяшканняў для фондаў Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі.

Не пакінуў без увагі Прэзідэнт і экспазіцыю ўласна Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны: Міністэрству фінансаў Рэспублікі Беларусь даручана выдзеліць фінансавыя сродкі Міністэрству культуры для рэканструкцыі экспазіцыі музея і пашырэння лакальнай камп'ютэрнай сеткі з падключэннем да Інтэрнета і электроннай пошты.

І нарэшце, апошнім пунктам Праекта даручэнняў Прэзідэнта па выніках таго візіту стала пытанне аб перадачы беларускім музеям слуцкіх паясоў, якія знаходзяцца ў Расіі.

**- Гэта ж колькі праблем выявілася падчас толькі аднаго візіту!**

- Іх сапраўды вельмі і вельмі шмат.

**- Не будзем гаварыць пра галоўную праблему ў культурнай сферы - фінансаванне. Тут усё зразумела, дакладней кажучы, мала што зразумела. Але вось, скажам, праблема кадраў. Наколькі забяспечаны нашы музеі музейнымі супрацоўнікамі, узброенымі ведамі не толькі ў галіне профільнай навукі, але і ўласна музеялогіі?**

- Наогул у 131 беларускім музеі сістэмы Міністэрства культуры сёння працуюць каля 2600 работнікаў, найбольшая колькасць іх - у музеях рэспубліканскага падпарадкавання (957 чалавек). Як правіла, гэта самыя вялікія музеі краіны, 95 працэнтаў якіх сканцэнтравана ў сталіцы.

Што тычыцца канкрэтна вашага пытання, дык з 881 навуковага супрацоўніка дзяржаўных музеяў толькі 85 працэнтаў маюць вышэйшую адукацыю, і толькі 7 працэнтаў музейных работнікаў атрымалі спецыяльную музеелагічную падрыхтоўку. Дарэчы, найбольш нізкая прафесійная падрыхтоўка - у супрацоўнікаў музеяў Гомельскай вобласці (толькі 45 працэнтаў навуковых супрацоўнікаў маюць профільную адукацыю і 6 працэнтаў - музеелагічную).

Гэтыя лічбы не могуць не насцярожваць. Музей XXI стагоддзя павінен быць установай высокапрафесійнай, паколькі мае справу з сучаснымі сродкамі захавання і перадачы культурнай інфармацыі. Нягледзячы на тое, што з пачатку 1990-х гадоў наладжана падрыхтоўка музейных спецыялістаў на двух адпаведных факультэтах Беларускага дзяржаўнага універсітэта і Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры, а з 1995 г. - Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта, толькі 2 працэнта выпускнікоў гэтых навучальных устаноў стала працуюць у музеях. Добрую справу рабіла вочна-завочная Школа музеялогіі, якая працавала ў Беларускім дзяржаўным інстытуце праблем культуры з 1994 па 2000 гады і займалася перападрыхтоўкай музейных супрацоўнікаў без адрыву ад асноўнага месца працы. За час існавання школы дыпломы атрымалі 45 навуковых супрацоўнікаў, амаль усе яны і сёння працягваюць працаваць у музейнай сферы. На жаль, дзейнасць школы была спынена, хаця, на наш погляд, такая форма падрыхтоўкі кадраў з'яўляецца даволі перспектыўнай.

Карацей, праблема кадравага забеспячэння музеяў застаецца, і вырашэнне яе залежыць не толькі ад наяўнасці сістэмы падрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі музейных работнікаў. Неабходна ўвогуле ўздымаць прэстыж музейнай прафесіі, неабходна на дзяржаўным узроўні клапаціцца пра стварэнне ўстойлівага станоўчага іміджу музеяў у грамадстве.

**- Наколькі я разумею, найрэальным сведчаннем гэтага іміджу можа быць наведвальнасць музеяў. Якім чынам выглядае сітуацыя ў гэтым сэнсе? Як змяняюцца формы працы з музейнымі наведвальнікамі? Мяне ў першую чаргу цікавяць формы працы са школьнай аўдыторыяй.**

- А яны й змяняюцца якраз пераважна ў рамках разнастайных музейна-педагагічных праграм, разлічаных на рознаўзроставыя вучнёўскія аўдыторыі. Прыкладаў новых цікавых падыходаў да працы з дзецьмі шмат. Так, у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь працуюць дзіцячыя клубы, лекторыі. Спецыяльныя праграмы работы са школьнікамі розных узростаў ажыццяўляюцца ў Полацкім гісторыка-культурным музеі-запаведніку, Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі, Гомельскім і Магілёўскім абласных краязнаўчых музеях, у раённых музеях гарадоў Рэчыца, Браслаў, Наваполацк і ў многіх-многіх іншых. У Веткаўскім музеі народнай творчасці існуе нават свая музейная школа "Аз, букі, ведзі - глаголь дабро".

Калі ж гаварыць наогул пра наведвальнасць беларускіх музеяў, дык нельга абысці паняцця каэфіцыента наведвання - ён вызначаецца адносінамі велічыні дасягнутага наведвання да колькасці насельніцтва рэгіёна, дзе знаходзіцца музей. Вядома ж, сярод рэгіёнаў нашай краіны найбольшым каэфіцыентам наведвання характарызуецца горад Мінск - 0,78. Затым ідуць Віцебская вобласць (0,54), Брэсцкая (0,46), Гродзенская (0,26), Гомельская (0,23), Мінская (0,22) і Магілёўская (0,21), сярэднебеларускі паказчык - 0,38.

Для параўнання: у Польшчы і Чэхіі такі паказчык стабільна трымаецца на ўзроўні 0,87 - 0,89.

**- Лічбы не цешаць. А тут яшчэ і новыя кошты білетаў у музеі, што ўведзены з першага мая...**

- Захады па павышэнні кошту білетаў былі вымушанымі, надта ўжо камічнымі яны былі да апошняга часу. На сённяшні дзень расцэнкі наступныя: білет для школьнікаў каштуе 500 рублёў, для навучэнцаў прафесійна-тэхнічных і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў - 750 рублёў і для ўсіх астатніх, то бок для дарослага насельніцтва - 1500 рублёў. Я думаю, такія расцэнкі не "кусаюцца", тым больш што гэта - максімальныя сумы, разлічаныя на ўвесь бягучы год. Адміністрацыя ж асобна ўзятага музея можа нават сама рэгуляваць гэтыя цэны - у бок іх змяншэння.

Адзначу таксама, што на сённяшні дзень, пакуль яшчэ не выпрацаваны адпаведныя нарматыўныя дакументы, студэнты вышэйшых навучальных устаноў могуць наведваць музеі бясплатна.

**- Яны хоць карыстаюцца гэтай, падараванай ім часам "ільготай"?**

- Ды вось, на жаль, не так актыўна, як хацелася б: статыстыка сведчыць, што сярод усіх катэгорый насельніцтва студэнцтва складае ці не самы маленькі працэнт. А сапраўды крыўдна: гэта ж якая выдатная магчымасць даецца студэнтам, асабліва тым з іх, хто вучыцца на гуманітарных спецыяльнасцях, падмацаваць свае тэарэтычныя веды ў музеі!

**- Галіна Пятроўна, ці чакае нас у бліжэйшым часе адкрыццё якіх-небудзь новых значных музеяў?**

- Так. Нагадаю, што ў пачатку гэтага года Дзяржаўнаму музею гісторыі тэатральнай і музычнай культуры быў перададзены шыкоўны будынак па Музычным завулку, 5, гэтак званы Дом масонаў. Цяпер там ідзе актыўная праца па стварэнні экспазіцыі - па сутнасці гэта будзе новы унікальны музей.

Ствараецца музей у Калінкавічах (этнаграфічная і ваенная тэматыка), літаратурны музей у Верхнядзвінску.

У Полацкім гісторыка-культурным музеі-запаведніку ў гэтым годзе павінны быць адкрыты асобны Полацкі мастацкі музей - у цудоўным гістарычным будынку, дзе калісьці размяшчаўся езуіцкі калегіум. Будучы музей атрымаў прэзідэнцкі грант і, магчыма, адчыніць свае дзверы ўжо ў верасні.

**- Не магу не закрануць пытання школьных музеяў. Не сакрэт, што не ўсё тут гладка, многія са школьных музеяў сутыкнуліся апошнім часам з безліччу праблем: недахопам прафесійных кадраў, адсутнасцю метадычнай дапамогі і інш. Урэшце, няма пакуль пэўнасці ў пытанні, на якой ідэі наогул мусіць грунтавацца школьны музей: літаратурнай, краязнаўча-этнаграфічнай, гісторыі ўласна самой школы і г.д. Што вы думаеце на гэты конт?**

- Я думаю, тут могуць быць розныя варыянты. Галоўнае, каб неабходнасць належнага функцыянавання музея зразумела дырэкцыя школы. Каб было трывалае ўсведамленне таго, што музей - гэта адмысловы паказчык інтэлектуальнага стану педагагічнага калектыву, вучнёўскага, урэшце самой школы. І тут трэба разумець, што музей - гэта першнаперш прапаганда, тое, што магчыма назваць не надта модным цяпер, але трапным словам - "ідэалогія". А ідэалогію мы павінны ствараць самі.

Упэўнена: калі школьнае кіраўніцтва гэта разумее, калі ў школе ёсць актыўныя і зацікаўленыя людзі, школьная музейная справа будзе развівацца. І прыкладаў тут ёсць вельмі шмат. Той жа музей Эпімаха-Шыпілы ў Ветрынскай школе Віцебскай вобласці. Там руплівыя настаўнікі разгарнулі такую грандыёзную працу, што імпэту і прафесіяналізму іх могуць пазайздросціць нават некаторыя рэспубліканскія музеі!

**- Галіна Пятроўна, напрыканцы, калі ласка, колькі слоў пра ролю музеяў наогул у сучасным грамадстве...**

- Лепей за прафесара Лонданскага універсітэта Патрыка Бойлана не скажу: "Я глыбока перакананы, што многія з незалежных лідэраў на просьбу вызначыць чатыры жыццёва найважнейшыя сімвалы незалежнасці нацыі, чатыры інструменты для ўтрымання людзей разам і стварэння сапраўднай нацыі размеркавалі б прыярытэты наступным чынам: сілы нацыянальнай бяспекі, служба нацыянальнага інфармавання, нацыянальны музей і нацыянальны універсітэт".

**Мікола ЧЭМЕР.**



У Брэсце прайшоў пяты гарадскі агляд-конкурс маладзёжнай моды "Вясенні капрыз". У ім узялі ўдзел большасць школ і гарадскі дом дзіцяча-юнацкай творчасці.

Усе мадэлі адзення, прадстаўленыя тут, былі створаны рукамі дзяўчат, якія іх і дэманстравалі. Больш як 150 удзельніц паказалі сучасную маладзёжную моду і моду будучага — арт-моду. Асабліва вылучаліся вырабы з элементамі нацыянальных беларускіх матываў.

НА ЗДЫМКУ: школьніцы сярэдняй школы № 37 Брэста атрымалі першую прэмію за арыгінальнасць. Іх сукенкі названы "мас-медыйнымі", таму што Наталля Шумская, Аня Пруднікава, Таня Яншына і Надзя Вайтовіч выкарысталі ў якасці асноўнага матэрыялу папулярныя газеты.

**Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА.**

Працяг размовы

# А што папярэднічала першай "двойцы"?

***Зноў старонка "Сямейнага клуба" і зноў пытанне, міма якога абыякава не пройдзеш: "Што за чарговай двойкай?" Калі шчыра, сітуацыя - на першы погляд ардынарная, дастаткова знаёмая, як і сам выпадак, бо "двойка" па-ранейшаму застаецца ўзаконенай адзнакай, як бы спадарожніцай школьнага жыцця, хоць і змагаюцца супраць яе.***

Сапраўды, нам, настаўнікам, і чытачам наогул, вядома, якіх толькі метадаў і спосабаў не выпрабавана, каб яе выкараніць, знішчыць, а яна – ажывае. Быў дэвіз: "Вучыць усіх – вучыць добра!" – а "двойкі" ставіліся. Была ўзнёслая ідэя вучыцца без другагодніцтва – і настаўнікі выстаўлялі ў журнал і ў дзённік "тройку", хоць яна і значылася "двойкай" насамрэч... А хтосьці ўрэзаў: будзем пераводзіць з ёю, неразлучнай...

Але ж чытаю матэрыял, у якім аўтар запрашае да чарговай размовы, дзе паслядоўна прасочваецца шлях да адказу: тут і маці, і сам "герой", і псіхолаг, – а ўсё зводзіцца да ўзаемін настаўніцы і таго "здольнага", але "гультая"... Згодны, але нечакана ўзнікае пытанне на пытанне: а што папярэднічала той першай "двойцы"? Бо колькі іх, столькі і пытанняў: "2" – вынік.

Сустракаю неяк былую выпускніцу школы, ужо маці хлопца, а менавіта, васьмікласніка, пытаю: – "Як нашчадак?" – "Здольны, але гультай" – адказ, як бачым, тыповы, бо яна не нарадзіла абы-каго. Няхай лепш – "гультай!". І пачынае абвінавачваць настаўніцу... А я вельмі добра ведаю тую Веру Пятроўну, дзесяткі гадоў працаваў з ёй у калектыве: уважлівая, руплівая, тактоўная – якраз з тых, на якіх школа трымаецца. І добра ведаю сям'ю былой выпускніцы, бо Дзімуля – адзіны, непаўторны, чытаць пачаў ад каляскі... А як жа яго ўхвалялі, любілі, быццам геній той, з будучыняй Эйнштэйна або Курчатава... Так меркавалі ўсе выхавальнікі, а іх было... сямёра, што нецяжка падлічыць... Калі ж Дзіму павялі па жэрабю ў "школу", адпрасаванага і з надзеяй-думкай "Што ён ужо прынясе?", ён прынёс запэцканую кашулю і замурзаны твар... "Куды ж глядзела тая, што настаўніцай завецца?" – было пытанне бацькоў. А потым – пайшло-паехала, бо таго хлопчыка, што нарадзіўся звычайным, нармальным, спецілі, залашчылі, пазбавілі асабістых інтарэсаў, жаданняў, імкненняў, бо ўсё рабілі замест яго, і нават з апераджэннем...

А каб паказаць, што ён не абыякі: дамашнія выхавальнікі ўжо з пачатковых класаў рашалі за яго задачкі, пісалі сачыненні, малявалі, нават вершыкі завучвалі разам... І не зведаў хлопчык з першых школьных крокаў таго пачуцця асабістага задавальнення, калі Сам рашыў задачу або напісаў сачыненне, Сам нешта намаляваў. Таму, дарэчы, не пераадолеў ніводнай цяжкасці, не адчуў. Згаданыя выхавальнікі ўсё рабілі для таго, каб сыночку і ўнучку было лягчэй і лепей... Канешне, Вера Пятроўна заўважыла, што Дзіма ніяк не можа адразу ўключыцца ў калектыўную працу, а марудзіць, бездапаможна аглядваецца, чакае дапамогі. Але, калі звярнулася да маці, пачула нечаканае: "Дома ён разумее, а ў класе – гэта вашая праблема: вы настаўніца... і вучыце..."

– Ды не вучыць яго трэба, а перавучваць, што значна цяжэй, – у роспачы прамовіла настаўніца.

Так ва ўзаемінах замест разумення, даверу і павагі з'явілася тая трэшчына-перашкода, што адбілася ў пешую чаргу на дзіцяці. І мне ўяўляецца той "здольны" на ўроку: няхай бы толькі абыякавы, але ж ён ад няма чаго рабіць пачынае перашкаджаць слухаць іншым, класу...

На жаль, такіх прыкладаў няма-ла...

Калі я сустрэў сваю былую вучаніцу яшчэ праз нейкі час, дык адразу і не пазнаў: так яна змянілася знешне.

– Ну, як нашчадак? – запытаў.

– Калі шчыра, лепш, чым меркавалі: Эйнштэйна не атрымалася, але ПТВ закончыў паспяхова...

А я ўспомніў даўно сказанае – што пачынаць выхоўваць дзіця трэба, калі яно ляжыць папярок лаўкі, і рыхтаваць да жыцця з усімі яго цяжкасцямі і радасцямі... Не вечныя дзядулі і бабулі, не вечныя і бацькі: прыйдзе час, калі іх сын і ўнук павінен будзе падаць ім руку дапамогі – руку моцнага мужчыны. Хіба не ў гэтым сэнс жыцця, які здзяйсняецца праз разумнае выхаванне?.. І хоць вядзецца вялікая, карпатлівая і напружаная праца па ўмацаванню садружнасці, сям'і і школы, усё ж здараюцца і "праколы". Пра адзін з іх – і гэты аповед, узяты з жыцця.

**Уладзімір КАРАЛЬКОЎ.**

# Жыццё побач з алкаголікам

***Усе людзі разбіраюцца ў палітыцы і сельскай гаспадарцы. Таксама як усе ўпэўнены ў тым, што ведаюць, як жыць у сям'і. Яны добра ведаюць, што карысна, а што шкодна для яе членаў, як трэба вырашаць надзённыя жыццёвыя праблемы, траціць грошы, распраджацца ўласнасцю, камандаваць дзецьмі і г.д. Здзіўляюць толькі вынікі гэтага "ведання" - алкагалізм мужа, наркаманія дзяцей, уласны неўроз або гіпертанія. Паколькі прызнаваць асабістыя памылкі вышэй чалавечых сіл, пачынаецца пошук "прычын" у спадчыннасці, суседцы, вінна-гарэлачным аддзеле гастранома і дзейнасці ўрада.***

Пагаворым пра сямейнае жыццё – жыццё, у якім прысутнічаюць дзеючыя алкаголікі і наркаманы. Такое жыццё – зневажальнае, бо чалавечае цела і душа з'яўляюцца храмам Прыроды, гімнам Творцу. Яно створана не для таго, каб зневажаць яго гарэлкай, наркотыкамі, гневам, прагнасцю, бессэнсоўнымі патрабаваннямі да іншых людзей або адчаем.

Успомніце, як вы сядзелі на зялёным пагорку, трымаючыся за рукі і адчуваючы, як трымціць ад спёкі паветра. Якія шчаслівыя вы былі! Вы кахалі адзін аднаго. А што такое каханне? Жаданне дабра для свайго блізкага. Хіба хацелі вы абражаць свайго мужа? Хіба муж планаваў скандалы і бойкі? Чаму ж усё так атрымалася?

Пісьменнікі і псіхолагі на працягу стагоддзяў даследуюць глыбіні чалавечай псіхікі і тайныя "спружыны" сямейных адносін. "Гэта так складана, – гавораць спецыялісты, – але мы разбяромся ў вашых праблемах, бо мы доўга вучыліся ва універсітэтах, чыталі кнігі, здавалі залікі і экзамены".

...Каля года я працую з Раяй, якая пакутуе ад алкагалізму. Пік яе п'янства прыйшоўся на сапраўды няпросты перыяд жыцця: муж аб'явіў, што ён кахае другую, аднак да "другой" не ішоў, бо дома жыць было зручней. Рая два гады вырашала сваю праблему з дапамогай дыпламаванага псіхолага, які раіў ёй "цярпець" і старацца вярнуць мужа-садыста. На шчасце, жанчына пазнаёмілася з праграмай "12 крокаў АА-Аланон" (ананімных алкаголікаў і іх жонак), змяніла ацэнку таго, што адбываецца. Гэта адразу прынесла вынік: муж нарэшце пакінуў раскіданае сямейнае гняздо (прычым пайшоў не да "другой", а да мамы), а Рая змагла зрабіць першыя крокі да вяртання сваёй чалавечай годнасці. Яна атрымала ключы для далейшага цвярозага жыцця – мужнасць, адмаўленне ад шкадавання да сябе, выхаванне самадастатковасці і творчую працу.

У жыцці сустракаецца даволі абмежаваная колькасць сямейных тыпаў, і мы не сумуем, калі глядзім серыялы, толькі таму, што нашу ўвагу прыцягваюць інтэр'еры, адзенне, музыка і тэмбр голасу акцёраў.

Матывы чалавечых паводзін , асноўныя жаданні і памкненні большасці людзей аднолькавыя: людзі прагнуць улады (магчымасці кантраляваць саміх сябе і іншых), прызнання (калі не сусветнага, то хоць бы павагі з боку бліжэйшага акружэння) і любві (інтымнасці, поўнага прыняцця не за якія-небудзь заслугі, а проста з-за факта існавання).

Тое, што на самай справе чалавек створаны для творчасці, усведамляецца менш. Мала хто разумее, што жаданне ўлады дадзена чалавеку для адухаўлення бяздушнага матэрыялу і стварэння прыгожага свету; што найбольшае прызнанне і задаволенасць уласным жыццём прыходзяць да творцаў; і што любоў ёсць перш за ўсё шчырае, але не навязлівае жаданне дабра іншым.

Можна апісаць два-тры тыпы адносін у сем'ях алкаголікаў.

...У сям'і алкаголіка нараджаецца дзяўчынка. Бацька не забірае яе з раддома, бо адзначае нараджэнне з сябрамі. Потым ён дорыць дачцэ падарункі, калі п'яны, строга правярае паспяховасць у школе, калі ўпадае ў спантанныя двух-трохмесячныя рэмісіі і сварыцца з жонкай. Дачка бачыць перад сабой "ідэал" мужчыны: імпульсіўнага, безалабернага, ненадзейнага, перыядычна грубага, але вельмі часта абаяльнага чалавека, які карыстаецца ўсімі выгодамі сямейнага жыцця (рэгулярнае харчаванне, чыстая пасцель, задавальненне сексуальных патрэб і патрэбы ў дамінаванні). У глыбіні душы дзяўчынкі гняздзіцца страх, што яе кінуць, што яна застанецца адна і не выжыве, бо яна так часта пачувала сябе адзінокай, калі бацькі былі заняты высвятленнем адносін. Мужчыны іншага тыпу здаюцца ёй падазронымі, чужымі. Яны, магчыма, і добрыя, ды яна іх недастойная. І калі толькі на яе шляху не сустрэнецца малады чалавек іншага тыпу, не з алкагольнай сям'і, які пакахае яе і ўвядзе ў іншы свет... Дык чаго хоча гэтая дзяўчынка? Таго ж, што і большасць людзей: улады (магчымасці кантраляваць), прызнання (павагі) і любові (не за якія-небудзь заслугі, а проста таму, што яна ёсць). Аднак яе асабісты вопыт паказвае, што ўлада ў сям'і засноўваецца на сваявольстве (так паводзіць сябе алкаголік), маніпуліраванні (так паводзіць сябе жонка алкаголіка) і, у канчатковым выніку, яна ілюзорная, бо алкаголік працягвае піць і ўрэшце гіне. Яе асабісты вопыт паказвае, што, нягледзячы на запэўніванні ў любові, бацькам, як правіла, не да яе, а для таго, каб прыцягнуць да сябе ўвагу (якая з'яўляецца ўжо амаль праявай любові), і неабходна нешта зрабіць: магчыма, прапусціць урокі ў школе або захварэць на бранхіяльную астму. Дзяўчынка не ўпэўнена ва ўласнай каштоўнасці (нізкая самаацэнка), імкнецца выжыць у што б там ні стала. Каб прадоўжыць сумніўныя радасці дзяцінства і юнацтва (не будзем забываць пра высокую верагоднасць маральнай і фізічнай знявагі ў такой сям'і, ажно да інцэсту), дзяўчына выбірае сабе мужам алкаголіка. Кола замкнулася. Мэта алкаголіка вельмі простая: палепшыць уласны стан шляхам прыняцця алкаголю – і ён заўсёды яе дасягае. Мэта дзяўчыны-жонкі – узнавіць свет дзяцінства з крыкамі, слязамі, пабоямі, даравannямі, выратаваннем мужа і нараджэннем дзяцей. Таму калі гаворыш ёй: "Калі муж хоць бы раз ударыў вас, ён ударыць яшчэ і яшчэ. Зразумела, гэта ваша справа, але жыць з чалавекам, які дазваляе сабе біць жанчыну – нельга", – яна пагаджаецца, але нічога не робіць, каб абараніць сябе ад пабояў (пайсці на развод або хоць бы выклікаць міліцыю).

У маёй тэрапеўтычнай групе ёсць жанчына, якую завуць Лена. Яна мае дачку Аліну 19-ці гадоў, якая пакахала алкаголіка Сашу. Саша грае на гітары, п'е гарэлку, нідзе не працуе і рэгулярна лечыцца то ў наркалогіі, то ў траўматалогіі. Аліна ведае, што такое алкагалізм, аднак лічыць, што ўсё добра (з кім не бывае), хоча нарадзіць дзіця...

Разам з тым у такіх сем'ях здараюцца і трагічныя развязкі. Пра такія зыходы вы можаце прачытаць у крымінальных хроніках. Зброяй, як правіла, служаць падручныя сродкі: нож, сякера, палена.

Сустракаюцца, вядома, і іншыя сямейныя гісторыі.

"X. і Z., вельмі ліберальныя і развітыя, пажаніліся. Вечарам гутарылі добра, потым пасварыліся, потым пабіліся. Раніцай сорамна, абодва здзіўлены, думаюць, што гэта адбылося з-за выключна нервовых уплываў. На другую ноч – зноў сварка і бойка. І так кожную ноч – і ў рэшце рэшт убачылі, што яны зусім не адукаваныя, а дзікія, як і большасць людзей". (Антон Чэхаў. З запісных кніжак.)

У сучасным жыцці гэтая версія часта суправаджаецца п'янствам мужа проста таму, што ў нашай краіне прыкладна кожны пяты дарослы мужчына пакутуе залежнасцю ад алкаголю. Жонка ж жадае прадэманстраваць сваю перавагу: "Я лепш за цябе, бо ў мяне адукаваныя бацькі", або "У мяне больш прэстыжная праца, польскія карані", або: "У 9-м класе я атрымала ганаровую грамату за ўдзел у гуртку мастацкай самадзейнасці", або: "Мой брат ездзіць на 600-м мерсе..." – спіс можна прадоўжыць. У гэтым выпадку алкагалізм мужа заканамерны, бо паказваць уласную перавагу перад п'яным, слабым, бязвольным чалавекам значна лягчэй, чым перад самастойным мужчынам, для якога не маюць значэння твае карані. Выпіўкі мужа правакуюцца не толькі біялагічна (яго ўласнымі цыкламі алкагольнай хваробы), але і цыкламі самасцвярджэння яго жонкі. Трэба ўлічыць яшчэ і кватэрнае пытанне: многім даводзіцца жыць з цешчамі.

Ёсць і іншыя тыпы сямейных адносін. Пэўны час я дапамагаў адной жанчыне. Назавем яе Лідай. Ёй было за сорак, большую частку жыцця яна пражыла з мужам-алкаголікам, даглядала яго, цярпела пабоі. Здзіўляла пакорлівасць, з якой яна прымала ад мужа маральную і фізічную знявагу. Ліда ніколі не скардзілася, не плакала, не ўпадала ў істэрыку. Нейкі час яна хадзіла да мяне на прыём са зламанай рукой. Да яе погляду на жыццё падыходзіць народная прымаўка: "Хрыстос цярпеў і нам сказаў". Ліда – дарослы чалавек і мае права выбіраць свой уласны спосаб жыцця. Але ў яе трое дзяцей. Дзеці раслі, гледзячы на п'яны кураж і злосць свайго бацькі. Больш за тое, яны і самі атрымлівалі бессэнсоўныя фізічныя пакаранні, а пакорлівая мама не магла іх абараніць. Пакорлівасць Ліды шкодзіла яе дзецям, мужу і ёй самой.

"Самаахвярнасць павінна карацца па закону. Яна дэмаралізуе тых, дзеля каго ідуць на ахвяры". (Оскар Уайльд.)

Цяпер, калі на Беларусі ўжо больш як дзесяць гадоў дзейнічаюць групы сама- і ўзаемадапамогі (перш за ўсё Ал-Анон), паявіўся яшчэ адзін тып жонак алкаголікаў. Паяўленне яго было непазбежным. Каб лепш зразумець гэта, прыгадаем, што Ал-Анон стварыўся пяцьдзесят гадоў назад як арганізацыя жонак алкаголікаў, мужы якіх ужо перасталі ўжываць алкаголь дзякуючы ўдзелу ў групах Ананімных алкаголікаў, духоўнаму росту і самаразвіццю. Тады найбольш разумныя жанчыны зразумелі, што для таго каб не страціць сваіх мужоў, якія пачалі новае, цвярозае жыццё, ім самім неабходна развівацца ў напрамку, вызначаным у праграме "12 крокаў АА". Вось яны і аб'ядналіся ў Ал-Анон, тым самым захаваўшы ўласныя сем'і. У нас жа Ал-Анон стварыўся пераважна жонкамі "дзеючых" алкаголікаў. Таму і псіхалагічнае развіццё ў групах было накіравана не на наладжванне сямейных адносін, а на выжыванне побач з мужам, які п'е.

І мы можам назіраць такую карціну. Муж п'е з гадамі ўсё больш і больш. Жонка гадамі ходзіць на заняткі Ал-Анон, вучыцца там цярплівасці і навыкам жыць адным днём. Растуць дзеці, пачынаюць піць піва, потым – гарэлку. Усё гэта толькі пацвярджае распаўсюджанае меркаванне пра бяссілле перад алкаголем. Жыццё жанчыны запаўняецца заняткамі ў АА і Ал-Анон, канферэнцыямі, паездкамі на юбілеі груп, грамадскай работай, сустрэчамі са спецыялістамі, лячэннем псіхасаматычных расстройстваў у тэрапеўтаў і дэрматолагаў і інш. Навічкам слухаць такіх жанчын цікава і нават карысна: яны добра ведаюць, дзе што ёсць і які псіхатэрапеўт якую бярэ плату. Аднак на слабыя розумы гэтыя знаўцы дзейнічаюць як марудная, але не менш страшная атрута. Яны ўліваюць у душы яд пасіўнасці і безнадзейнасці.

Але яны не маюць рацыі, яны проста баяцца свабоды.

Але чаму вы лічыце сябе слабымі? Хто сказаў, што вы слабыя?

Ёсць і іншыя аксіёмы:

Толькі смерць безнадзейная.

Свет знаходзіцца ў раўнавазе. Калі ў свеце існуе гарэлка, існуюць і спосабы не ўжываць яе.

Таму дзеючыя алкаголікі не заслугоўваюць нічога.

Азірніцеся і заўважце: жыццё цудоўнае. Можа, вы зараз проста ідзеце па вузкай сцяжынцы. Паветра сухое і лёгкае. Ціха, толькі недзе ўдалечыні прашумела электрычка. Наперадзе бяжыць ваш сабака, тыцкае пысай у заечыя сляды. Вас чакае агонь, вараная бульба, шклянка чорнага чаю і старэнькі том Ляскова 1948 года выдання. Алкагалізм і наркаманія вашых сваякоў не маюць да вас ніякага дачынення.

**Уладзімір ІВАНОЎ,**
**урач-нарколаг.**

Сямейны клуб "Настаўніцкай газеты"

СЕМ Я

Кабінет псіхолага

# Чалавек у сферы "гр-ррр..."

***Тэма нашай сённяшняй размовы ў кабінеце псіхолага - агрэсія. Яна мае шмат аблiччаў. Двухгадовае дзіця без ваганняў б'е лапаткай па галаве сябра, які забраў яго цацку. Агрэсія? У чыстым выглядзе. Плынь машын на шырокай вуліцы - таксама агрэсіўная. Нават хваробу можна ўспрымаць такім чынам, бо яна нясе пагрозу нашаму целу. І вострыя вуглы - на малюнку, у мэблі, архітэктуры - мы таксама падсвядома ўспрымаем як агрэсіўны, элемент. Дык што ж такое агрэсія і агрэсіўнасць, да чаго яны прыводзяць? Паспрабуем разабрацца разам з псіхолагам Цэнтра пазашкольнай работы "Ветразь" (Кастрычніцкі раён Мінска) Таццянай Уладзіміраўнай КУНІГЕЛЬ.***

**- Таццяна Уладзіміраўна, агрэсія, калі ўдумацца, - вельмі аб'ёмнае і комплекснае паняцце. З чаго пачнем?**

– Я заўсёды пачынаю з самога слова, таму што яно абавязкова нясе ў сабе сутнасць з'явы (гэта мой погляд). Калі вымаўляеш гэтае слова, толькі паслухайце, як яно гучыць – агр-ррэсія... Я называю гэта станам "гр-ррр..." І ўсе словы з такім гукаспалучэннем дакладна перадаюць гэты стан: гр-рроза, гр-рром, паг-рроза, гр-рад... Нават горад (раней – град) таксама перадае нешта вялікае – агр-ромністае (магчыма, варожае), і ў любым выпадку – моцнае... Так, у гэтым стане адчуваеш моц, а яшчэ – нешта электрычнае, напружанасць, энергію. Што за навальніца без маланкі? Гр-рукат... Гэта той стан, які немагчыма не пачуць. Агрэсія вельмі рэдка бывае ціхай...

**- Але ж бывае, хаця б вонкава? У людзей яна можа маскіравацца нават падкрэслена пачцівымі манерамі і прыязнасцю...**

– Але давайце паглядзім, што пры гэтым адбываецца ўнутры – там усё клякоча, грукоча, там – электрычнасць і напружанне...

Такім чынам, мы ўступілі ў сферу "гр-ррр..." – сферу моцы, напружання, захаплівання. У сваім негатыўным стане – гэта тое, што цісне на нас, гэта разбуральная моц. Хаця... я люблю навальніцу. Яна асвяжае. Падчас яе столькі ўсяго бывае... то напружанне, то спад... Страх... Там столькі эмоцый! А пасля – наступае незвычайнае супакаенне, поўная працілегласць агрэсіі.

Наогул, агрэсіўнасць базіруецца на пэўным стане, які сам па сабе з'яўляецца станоўчым, – на актыўнасці. Што такое актыўнасць? Гэта калі ты ў тонусе, напружанні, гатовы да бою. Гэта можа быць нейкая справа, ты можаш асвойваць нешта новае. Энергія актыўнасці – станоўчая энергія. Чалавек у такім стане ўважлівы (можна сказаць: пільны). Я б не сказала, што ён асцярожны, проста ён прыслухоўваецца. Які зараз свет? Ён варожы альбо не? Можа, ён зараз спакойны і я магу расслабіцца? Гэта нейкае прадчуванне небяспекі. "Я ведаю, што свет наогул нейтральны, але іншы раз ён паварочваецца да нас рознымі бакамі. І я прадбачу, што могуць быць нейкія небяспекі, бар'еры..." Гэта – базавы стан перад агрэсіяй.

**- І калі ўзнікае той ці іншы бар'ер - тады гэты базавы стан пераходзіць у агрэсію?**

– Наогул, усё ідзе з дзяцінства. Адно дзіця плача, другое – б'е. У дзіцяці гэта нават не агрэсія, а абарона сябе, бо галоўная прыкмета агрэсіі – нападзенне. Што ж датычыць дарослых... пазнаць агрэсіўнага чалавека даволі проста, трэба толькі крыху прыгледзецца.

Такі чалавек звычайна недаверлівы, і што яшчэ больш заўважна – ён хоць да чагосьці, але непрымірымы: вось я гэтага не выношу, і гэтага, і гэта не так, як трэба. Такая вось не-мірнасць. Яшчэ яго можна пазнаць па частых крыўдах. Калі чалавек часта крыўдзіцца, гэта значыць, што дзесьці ўнутры ў яго назбіраўся добры запас энергіі. Але запас гэты знаходзіцца ў такім, як бы сказаць, скурчаным выглядзе, бо сцяты крыўдамі. Калі б гэтыя крыўды ўспыхвалі адэкватна і знаходзілі сабе выйсце, гэтая энергія працякла б правільна.

**- Значыць, крыўды не даюць унутранай энергіі выйсця і прыводзяць да агрэсіі?**

– Абсалютна так. А яшчэ такі чалавек часта ўжывае слоўныя пагрозы, нават сам таго не заўважаючы. Жывем мы, канешне, не ў зусім нейтральным асяроддзі. Але яшчэ старажытныя філосафы заўважылі, што калі твой унутраны стан нейтральны, дык і асяроддзе вакол цябе будзе такім жа. Адпаведна, агрэсіўны чалавек лічыць, што вакол яго агрэсіўны свет.

**- І, па сутнасці, сам стварае гэтыя напружанне і агрэсію навокал?**

– Абавязкова. Калі я буду баяцца небяспекі да такой ступені, што пайду і куплю сабе пісталет, дык рана ці позна я патраплю ў сітуацыю, у якой ён акажацца неабходным. Таму што калі мы думаем, што свет нам пагражае, ён і будзе пагражаць.

**- Чалавек адчувае пагрозу (не мае значэння, якога кшталту - свайму здароўю, дабрабыту, аўтарытэту) - і рэагуе па прынцыпу агрэсіі? Альбо кожны - па-рознаму? Хтосьці пачынае баяцца, напрыклад? Страх нейкім чынам звязаны з агрэсіяй?**

– Вельмі цесна. Страх – гэта яшчэ адна база, ці базавае пачуццё, якое нараджае агрэсію і нянавісць. З гэтага вырастаюць усе крыўды, гнеў, пагрозы... І толькі потым ідзе яркі ўсплеск агрэсіўнасці самой па сабе, калі яна пераходзіць у вонкавае праяўленне.

**- Але, зноў жа, не заўсёды агрэсія бывае відавочнай. Так, людзі могуць праяўляць яе фізічным альбо вербальным шляхам. Але я, напрыклад, (думаю, не толькі я) неаднаразова была сведкай замаскіраванай агрэсіі, якая праяўлялася даволі вытанчаным шляхам і хавалася за знешняй прыязнасцю і добрымі манерамі. У такіх выпадках мне на памяць заўсёды прыходзілі радкі Шэкспіра - "кажись цветком, но будь змеёй под ним". Такі спосаб агрэсіўнасці, дарэчы, часцей уласцівы жанчынам. Але калі гэта насамрэч агрэсія, дык унутры ў такога чалавека ўсё павінна клекатаць (мы пра гэта гаварылі на пачатку размовы). Гэта, напэўна, моцна б'е па здароўі?**

– Ступень пагрозы і ўрону для такога чалавека я не магу вызначыць, бо калі ён дабіўся сваёй мэты і "стрела попала в цель", ён можа адчуць магутную разрадку. Хаця гэта заўсёды сведчыць аб унутранай непаспяховасці і няшчаслівасці – калі чалавек так сябе паводзіць. Ва ўсіх нас ёсць патрэба ў бяспецы, пяшчоце, спакоі, любові, у іншым чалавеку, нарэшце. Гэта базавыя патрэбы, якія павінны быць задаволены. Але яны знаходзяцца ў зоне рызыкі. Бо калі пакарміць мы можам самі сябе, дык наконт такіх патрэб гэта праблематычна.

**- Атрымліваецца, агрэсіўныя людзі - тыя, у якіх гэтыя патрэбы пэўным чынам не задаволены. Гэта і выклікае напружанне, якое праяўляецца ў выглядзе агрэсіі?**

– І ў выглядзе агрэсіі таксама. Гэта адзін са шляхоў разрадкі ўнутранай энергіі. Справа ў тым, што мы зараз разглядаем агрэсію ў агульным плане: якая база, да чаго гэта прыводзіць – без індывідуальных нюансаў. Усе мы можам быць агрэсіўнымі і павінны быць такімі калі-нікалі. Гэта ў нас закладзена прыродай. А сам працэс агрэсіі базіруецца на пэўных эмоцыях, у першую чаргу на розных страхах. Але ў цэлым усё пачынаецца з базавых патрэб, якія неабходна задаволіць. Патрэбы ў выжыванні, бяспецы, даверы, любові. Як толькі ўзнікае пагроза іх незабяспячэння – прыходзіць страх. Чалавек альбо спраўляецца з ім і дае рэакцыю агрэсіі, альбо аказваецца ў яго палоне.

Базавыя адносіны да свету ў цэлым фарміруюцца ў дзіцяці да 6 месяцаў. Што яно адчувала на працягу гэтых першых месяцаў жыцця, як да яго адносіўся свет? Можа, яно часта ляжала ў мокрых пялёнках, можа, калі яно плакала, ніхто да яго не падыходзіў, можа, яго рэдка бралі на рукі? На аснове ўсяго гэтага ў яго галоўцы адбываецца пэўны аналіз і замацоўваецца рэакцыя даверу альбо недаверу да свету. І гэты дастатак веры альбо яе нястача з'яўляюцца зыходнымі для ўсіх будучых паводзін – агрэсіўных альбо добразычлівых. Заўважце, як часта людзі прыходзяць да такой высновы: "Мне няма на каго спадзявацца". Гэта – добраахвотная ізаляцыя ад іншых людзей. Пры такой пазіцыі ўсё, што нам застаецца – гэта абараняцца.

**- І як такая пазіцыя і ўвогуле агрэсіўнасць праяўляюцца фізіялагічна?**

– Давайце зноў звернемся да лінгвістыкі. Пачнем з тых слоў, якімі мы апісваем агрэсіўнага чалавека: ён – жорсткі, рэзкі, грубы, непрабіваемы, упарты. Ён бачыць толькі два колеры: белы і чорны. Заўважу, мы зараз бяром тыповага агрэсіўнага чалавека, не разглядаючы нюансаў. Толькі што мы апісалі псіхалагічныя якасці, найбольш яму ўласцівыя. Але што цікава, калі мы звернемся да фізіялогіі такога чалавека, мы знойдзем тое ж самае. Агрэсіўны тып павінен абараняцца ад свету (ён так лічыць), таму яму абавязкова патрабуецца панцыр, браня. Якім чынам гэта праяўляецца ў фізічным целе? Ды тым, што ў яго гібкіх структурах, тым жа пазваночніку, венах, мышцах... пачынаюць фарміравацца розныя адкладанні, яны становяцца цвёрдымі, рыгіднымі.

Уласнае цела падпарадкоўваецца жаданню такога чалавека трымаць перад сабой шчыт – і само становіцца шчытом. Адсюль шматлікія зацісканні мышцаў (мышачны панцыр), адкладанні соляў у пазваночніку і суставах, нерухомы твар. Усе рухі рэзкія, вуглаватыя. І пры такім напружанні (бо зацісканні мышцаў – гэта напружанне ў целе) чалавек становіцца неадчувальным. Непрабівальным. Абароненым. Хаця ўсё гэта – не больш чым ілюзія, таму што няма на свеце нічога больш крохкага, чым цвёрдае. Гнуткасць намнога лепш абараняе, але агрэсіўны чалавек аб гэтым і не падазрае. І калі б ад гэтага цярпела толькі фізічнае цела... Але ж цярпяць усе адаптацыйныя магчымасці чалавека. Яго погляды таксама становяцца цвёрдымі, рыгіднымі – не гнуткімі (дарэчы, менавіта з агрэсіўных вырастаюць фанатыкі). Такі чалавек амаль не можа спачуваць іншым. Розумам ён можа ўспрыняць чыюсьці бяду, але вось падключыцца эмацыянальна – гэта ўжо для яго праблематычна. Таму яму асабліва цяжка наладзіць блізкія, даверлівыя адносіны з іншымі.

**- І як можна дапамагчы такому чалавеку? Як ён сам можа сабе дапамагчы?**

– Такі чалавек заўсёды жорстка сябе кантралюе. А яму трэба вучыцца адваротнаму – расслабленню, даверу да жыцця. Трэба вырошчваць у сабе своеасаблівы орган веры. Вялікую ролю ў гэтым адыгрывае зноў жа наша цела. Тут будуць карыснымі любыя працэдуры, якія могуць дапамагчы яму вярнуць гнуткасць: фізічныя практыкаванні, масажы, методыка спантаннага танца. Важна пачуць сваё цела – гэта дапаможа знізіць узровень трывожнасці, зменшыць страхі.

Такому чалавеку трэба вучыцца разумець, *што* ён адчувае ў кожны канкрэтны момант, усведамляць, *што* з ім адбываецца. Гэтыя прыёмы прымяняюцца ў любой псіхалагічнай кансультацыі. Псіхолаг заўсёды спытае ў свайго кліента: *што* вы зараз адчуваеце? Гэта – вяртанне ў цяперашні момант, у сапраўдны (не будучы і не мінулы) час. Але чалавек можа зрабіць гэта і сам. Ён толькі павінен часцей спыняцца і задаваць самому сабе простае пытанне: *што* я зараз адчуваю?

У нашай культуры лічыцца непрыстойным праяўляць свае пачуцці. Але калі мы стрымліваем свае эмоцыі – гэта парушае ход, цячэнне, цыркуляцыю (назавіце як хочаце) энергіі. Ёй няма адэкватнага выйсця, чалавек кантралюе сябе... Зноў мы вярнуліся да тэмы кантролю. Адсюль – адзін крок да агрэсіўнасці. Нам усім трэба вучыцца шчырасці, яна – лепш, чым агрэсія. Хаця, не магу не адзначыць, у любой чалавечай якасці ёсць і плюсы. Здаровая доля агрэсіі – гэта наш патэнцыял, яго трэба толькі правільна выкарыстоўваць. Самае лепшае – паставіць перад сабою добрую мэту – і рухацца наперад. Такі чалавек можа разбіць некалькі кубкаў на шляху да сваёй мэты – але ж ён здольны і перамыць горы посуду...

**Гутарыла Святлана СУБОЦІНА.**

# Школьныя праблемы - з дашкольнага дзяцінства

***Пра свайго будучага вучня школам трэба паклапаціцца загадзя, пакуль той знаходзіцца ў дашкольнай установе, каб пасля не наракаць на яе і не аказацца вінаватымі перад прафесійнымі навучальнымі ўстановамі. Бо што і казаць: апошнім часам дзіцячыя садкі, захапляючыся навучаннем дзяцей чытанню, пісьму, адхіляюцца ад сваіх непасрэдных абавязкаў - развіваць у дзяцей памяць, слых, зрок, вучыць іх валодаць сваімі пачуццямі і думкамі і яшчэ шмат чаму, што ўваходзіць у паняцце падрыхтоўкі да школы. Ад якасці гэтай падрыхтоўкі залежаць далейшыя поспехі чалавека ў навучанні і, вядома, у жыцці ўвогуле.***

У сярэдняй школе № 72 сталіцы Партызанскага раёна больш не чакаюць у вялікім хваляванні прыходу новых дзяцей у школу. Настаўнікі самі пайшлі ў дзіцячыя садкі ў старэйшыя групы, каб паглядзець і спрагназаваць – каго ж ім давядзецца сустракаць у падрыхтоўчых класах. Па іх шчыраму прызнанню, выпускнікі садкоў іх крыху напалохалі: сваёй неразвітасцю. Адсюль і многія праблемы маленькага школьніка – нежаданне вучыцца, неўрозы і стрэсы, нізкая паспяховасць і многае іншае. І настаўнікам-пачаткоўцам замест таго, каб па плану выконваць школьную праграму, даводзіцца выпраўляць памылкі некампетэнтных выхавацеляў.

Праблему пераемнасці паміж дзіцячым садком і пачатковай школай, паміж першым звяном і сярэднім звяном у 72-й школе вылучылі ў разрад першай важнасці. Яе вырашэнне, на думку дырэктара Аляксея Міхайлавіча Гарадовіча, павысіць якасць ведаў, а з імі і статус навучальнай установы. Адміністрацыяй і настаўнікамі школы была распрацавана рэгіянальная комплексная праграма па пераемнасці, да ўдзелу ў якой падключылі дзве дашкольныя установы ( на базе якіх размяшчаліся падрыхтоўчыя класы ) – № 257 і 566; 9-ю гарадскую дзіцячую паліклініку, а ў якасці памочнікаў-кансультантаў былі абраны Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, Гарадскі метадычны цэнтр і Акадэмія паслядыпломнай адукацыі. Нельга сказаць, што раней у школе не праводзілася падобная работа, але цяпер, з паяўленнем канкрэтнай праграмы, вырашэнне праблемы пераемнасці набыло цэласнасць, паслядоўнасць і перспектыўнасць. Увесь мінулы год ішла карпатлівая навукова-метадычна-арганізацыйная падрыхтоўка, складаўся план дзеянняў, ішло абмеркаванне працэсу. Як кажа намеснік дырэктара школы па пачатковых класах Наталля Пятроўна Каваленка, каб атрымаўся вынік, трэба ўсіх удзельнікаў праграмы зацікавіць, навучыць і паказаць важнасць гэтай работы. Настаўнікі-пачаткоўцы атрымліваюць неабходныя тэарэтычныя веды па праблеме, для кожнага з іх вызначаецца тэма для самаадукацыі, якая таксама тычыцца пытанняў пераемнасці. Штомесяц, а то і часцей, гледзячы па неабходнасці, ладзяцца педагагічныя студыі, дзе абмяркоўваюцца ўсе пытанні, якія ўзнікаюць падчас выканання праграмы. Настаўнікі, якім сёлета давядзецца набіраць новыя класы, на працягу года наведвалі сваіх будучых вучняў у дзіцячых садках: сачылі за гульнямі, заняткамі, наладжвалі з малечай стасункі, пасля сваімі назіраннямі дзяліліся з выхавацелямі і ўжо сумесна распрацоўвалі індывідуальныя праграмы карэкцыі-развіцця для кожнага дзіцяці.

Такія паходы сталі карыснымі для ўсіх: настаўнікі знаёміліся са сваімі будучымі вучнямі; выхавацелі атрымлівалі карысныя парады і арыенцір у працы; дзеці ж звыкаліся з новым настаўнікам-выхавацелем. Дарэчы, малыя прызвычайваюцца загадзя і да дома, дзе ім, мажліва, давядзецца далей вучыцца. Яны хадзілі на экскурсіі ў школу, прымалі ўдзел у яе святах: "Дні ведаў", "Дні здароўя" , "Апошнім званку", пасля чаго дзяцей ужо не спалохае будучае, звязанае са школай.

Адаптацыя ў гэтых дзяцей пройдзе не так цяжка, таму што школа імкнецца вытрымліваць адукацыйны працэс на тым арганізацыйным і метадычным узроўні, на якім ён вёўся ў дашкольных установах. У садку №257 выхавацелі працуюць па тэхналогіі " Першы крок", а пачатковая школа ідзе ўжо "Крок за крокам", сярэдняя школа ў свой час падтрымае іх і зробіць "Крок у будучыню". Гэтыя крокі адпавядаюць адзін аднаму, яны павялічваюцца паступова і прадумана. Адзначана, што ў вучняў з класа, які займаецца па тэхналогіі, вышэй якасць ведаў і добра развіты камунікатыўныя і асобасныя якасці, дзеці таксама менш хварэюць.

Другі дзіцячы садок (№ 566) мае фізкультурна-эстэтычны накірунак, таму 72-я школа адкрыла ў сябе класы з эстэтычным ухілам, каб працягваць справу свайго папярэдніка.

Вялікая частка работы па праграме праводзілася з бацькамі дзяцей, якія займаліся ў старэйшых дашкольных групах. Напачатку настаўнікам было цяжка іх сабраць, даводзілася рассылаць паштоўкі-запрашэнні і асабіста клікаць на размову, пакуль тыя адгукнуліся. З імі праводзіліся заняткі накшталт " Педагагічных універсітэтаў для бацькоў", дзе распавядалася аб тым, што чакае іх дзіця ў школе, як яго да гэтага падрыхтаваць. Галоўная задача для бацькоў – дапамагчы свайму дзіцяці стаць самастойным, зацікаўленым вучнем. Зараз яны з большай ахвотай прыходзяць у школу, цікавяцца новымі педагагічнымі тэхналогіямі, вынікамі работы настаўнікаў. Да бацькоў прыходзіць разуменне, што яны таксама з'яўляюцца саўдзельнікамі адукацыйнага працэсу, а не пасіўнымі яго заказчыкамі.

Акружаная буйнымі прадпрыемствамі, 72-я школа знаходзіцца ў адным з самых забруджаных раёнаў сталіцы – мікрараёне Дражня. Такое суседства выклікае росквіт самых розных хвароб. Вучні пакутуюць на кепскі зрок, скаліёз, гастрыты, захворванні сэрца і сасудаў. Школа была вымушана займацца не толькі навучаннем, але і лячэннем дзяцей. Уключэнне ў праграму па пераемнасці медыкаў – вельмі разумнае рашэнне. Дактары са сваёй своечасовай дыягностыкай, апаратыўнымі прафілактычнымі мерапрыемствамі хутка прыпынілі рост захворванняў. Урачы і настаўнікі адчулі, якую карысць яны могуць прынесці адзін аднаму: адным не патрэбны "лішнія" пацыенты, а другія клапоцяцца, каб дзеці не прапускалі ўрокі. Цяпер настаўнікі ведаюць аб стане здароўя сваіх вучняў лепей за некаторых бацькоў. Разам з медыкамі яны выхоўваюць у іх беражлівае і культурнае стаўленне да свайго здароўя. Комплекснае абследаванне і асноўныя працэдуры дзеці атрымліваюць у 9-й паліклініцы, без марудных запісаў і доўгіх чэргаў. У школе працуе фітабар, дзе па паказаннях урачоў хворыя вучні ( і дзеці з дзіцячых садкоў таксама) атрымліваюць лекавыя напоі. Спраўна працуе і школьны стаматалагічны кабінет, малеча ўжо навучылася правільна чысціць зубы і берагчыся ад карыесу. Засталася яшчэ адна мара ў адміністрацыі школы – для загартоўвання арганізма займець душавыя.

Год – невялікі тэрмін, каб рабіць грунтоўныя высновы пра поспех праграмы па пераемнасці, аднак, паводле слоў Наталлі Пятроўны, пэўныя недахопы ў выхаванні выпускнікоў дзвюх дашкольных установаў сёлета паспелі выправіць. І нічога страшнага не будзе ў тым, калі гэтыя выпускнікі абяруць іншую навучальную ўстанову для атрымання сярэдняй адукацыі – школа працуе на карысць дзяцінства ўвогуле, а не сваёй асабістай установы, да таго ж настаўнікі набываюць каштоўны вопыт. Праграма толькі разгортваецца, далей яна стане больш цікавай і плённай.

**Святлана КІРСАНАВА.**

Справы дашкольныя

# Тут рыхтуюць вучняў

***Дзіцячы садок сёння - ужо не проста выхаванне, а яшчэ і адукацыя, прычым абавязковая, таму бацькам, чые дзеці ходзяць у садкі, можна не хвалявацца - да школы там падрыхтуюць. Іншае пытанне - якім чынам?***

У дзіцячы садок №503 сталіцы я завітала зусім выпадкова. Не ставіла перад сабой мэту трапіць у добры або дрэнны садок, галоўнае было даведацца, якім чынам зараз рыхтуюць дзетак да "паступлення" ў школу, якім чынам ажыццяўляецца пераемнасць дзіцячы садок - пачатковая школа.

- Нашаму садку пятнаццаць гадоў, і на працягу гэтага часу мы супрацоўнічаем са школай №180 і ўжо гадоў дзесяць - са школай №216, - пачала гаворку Ларыса Мікалаеўна Скрыпчык, загадчыца пяцьсот трэцяга дзіцячага садка. - На базе нашай установы працуюць чатыры класы - тры падрыхтоўчыя і адзін першы. Паколькі адзін клас працуе па тэхналогіі "Крок за крокам", дык мы рыхтуем і дзетак у гэты клас. У нас ёсць эксперыментальная група, якая працуе ў рамках тэхналогіі "Першы крок". Вялікім плюсам супрацоўніцтва са школамі з'яўляецца той факт, што мы добра ведаем усіх настаўнікаў-пачаткоўцаў гэтых школ, і нашыя дзеткі маюць магчымасць выбраць сабе настаўніка. Мы можам нешта падказаць бацькам, а іншы раз і ў школу дапамагаем аформіць.

У 2001 годзе Міністэрствам адукацыі нашай краіны быў выпушчаны і зацверджаны дзяржаўны стандарт - "Дашкольная адукацыя, гатоўнасць да школы". У ім вельмі дакладна, па пунктах выкладзены патрабаванні да педагога, а таксама пералічаны ўменні і навыкі, якімі павінна валодаць дзіця, так бы мовіць - выпускнік дзіцячага сада. Асноўнымі адукацыйнымі напрамкамі ў дзіцячым садку з'яўляюцца фізічная культура, навучанне грамаце, матэматыка, свет прыроды, свет мастацтва і свет музыкі.

Выхавацелі дзіцячага садка не ставяць перад сабой мэту - навучыць дзіця чытаць і пісаць. Гэта ўвогуле не іх справа, яны нават права гэтага рабіць не маюць. Чытанне і пісьмо - справа школы. А вось падрыхтаваць дзіця да працэсаў навучання чытанню і пісьму неабходна. Якім чынам усё ажыццяўляецца? У рамках развіцця мовы і навучання грамаце дзеці знаёмяцца са значэннем слова, яго паходжаннем. Ім даецца паняцце пра сказ, як сказ можна падзяліць на словы. Ужо ў садку маленькія дзеткі могуць нешта сказаць пра гук, гукавую структуру, знаёмяцца з літарамі. Абавязкова робіцца акцэнт на развіццё пазнаваўчай актыўнасці (успрыняцце, памяць, мысленне, увага, уяўленне), на развіццё інтэлектуальных здольнасцей (паняцце, меркаванне, уменне рабіць высновы), на развіццё дробнай маторыкі рук (ручная праца, пальчыкавыя гульні, маляванне, графічныя практыкаванні) і на развіццё матывацыйнай гатоўнасці (жаданне, матыў). Усё навучанне ажыццяўляецца ў форме гульняў.

- У першую чаргу, зыходзячы з дзяржаўных стандартаў, дзіця не павінна мець у арсенале набору нейкіх канкрэтных уменняў і навыкаў. У яго павінны быць сфарміраваны навыкі гатоўнасці да вучэбнай дзейнасці. Гэта - развіццё матывацыі да вучэбнай дзейнасці. Дзіця павінна разумець, для чаго ідзе ў школу, увогуле, што такое школа, якую ролю выконвае настаўнік, а якую - вучань, як падпарадкаваць свае жаданні патрабаванням настаўніка. Далей - інтэлектуальная гатоўнасць, але для сучасных дзяцей гэта не праблема. Нашы выхаванцы, як правіла, умеюць чытаць, пісаць, лічыць, нават складаць задачы і рашаць іх, хоць праграмай гэта не прадугледжана. Мы ж толькі павінны закласці аснову набыцця граматнага пісьма і чытання, навучыць дзяцей добра гаварыць - развіваць іх мову.

Адзіная праблема - развіццё маторыкі рук, таму мы з дзеткамі займаемся пальчыкавай гімнастыкай, лепкай, бісерапляценнем. Пакуль рука дзіцяці функцыянальна не сфарміруецца, гаварыць пра нармальнае пісьмо няма чаго. А гэта звычайна адбываецца прыкладна ў сем гадоў. Зараз жа дзеці ідуць у школу з шасці гадоў, і нашай задачай з'яўляецца падрыхтаваць мышцы рукі да пісьма. Вучыць пісаць - не ў нашай кампетэнцыі. У пачатковай школе настаўнік правільна ставіць руку кожнаму вучню, калі дзеці пачынаюць вучыцца пісаць у прапісі. У садку можна навучыцца толькі друкаваць - пісаць друкаванымі літарамі... - падключылася да гаворкі Святлана Вадзімаўна Сцяблінская, намеснік загадчыцы дзіцячага садка.

Гэта ўсё тое, што датычыцца дзяржаўных стандартаў. Зыходзячы з нормаў, дзіця ў садку не павінна ўмець чытаць, пісаць і лічыць. Гэта ўжо справа школы, але тым не менш "выпускнікі" дзіцячага сада, прыходзячы ў падрыхтоўчы клас, добра чытаюць, пішуць і лічыць умеюць. Узнікае пытанне - што ім рабіць у пачатковай школе? Атрымліваецца - удасканальваць набытыя ўменні і навыкі або шукаць моцную пачатковую школу з добрымі настаўнікамі, каб развівацца далей.

Усе дзіцячыя садкі, зноў-такі зыходзячы з дзяржаўных стандартаў, працуюць па праграме "Пралеска". Яна з'яўляецца зместам навучання і выхавання ў садку. Формы могуць быць самымі рознымі. Многія садкі арганізуюць эксперыментальныя групы па тэхналогіі "Першы крок", што мае працяг у пачатковай школе ў тэхналогіі "Крок за крокам". 503-ці дзіцячы садок - не выключэнне, пра што вышэй гаварыла яго загадчыца Ларыса Мікалаеўна. Як яна потым сказала: "Так, мы працуем па дзяржаўнай праграме "Пралеска", а за методыку арганізацыі навучальнага працэсу ўзялі тэхналогію "Першы крок".

У гутарку зноў уступіла Святлана Вадзімаўна:

- Асноўная мэта праграмы "Першы крок" - удзел бацькоў у навучальным працэсе, далучэнне сям'і да інтарэсаў дзіцячага сада, да інтарэсаў школы. У рамках гэтай тэхналогіі прадастаўляецца права выбару дзейнасці дзецям. Няма такога, каб усе аднačасова навучаліся матэматыцы або грамаце. Дзеці працуюць у навучальных цэнтрах. Існуюць цэнтр навучання той жа грамаце, цэнтр навучання выяўленчаму мастацтву, сенсорны цэнтр, сюжэтна-ролевай гульні і г.д. Для разгляду бярэцца адна тэма на ўсе цэнтры. І падчас аднаго тыдня дзіця праходзіць праз усе цэнтры. Да таго ж у рамках гэтай тэхналогіі ажыццяўляюцца індывідуальныя навучальныя праграмы.

Па словах загадчыцы дашкольнай установы і яе намесніцы, бацькі прымаюць актыўны ўдзел у працэсе навучання і выхавання сваіх дзяцей, што з'яўляецца вялікім плюсам. Агульнаадукацыйныя школы даўно пачалі біць у званы - маўляў, бацькі адвярнуліся ад дзяцей. Па-другое, існуе пераемнасць у рамках вышэйадзначаных праграм паміж дзіцячым садком і школай, што не парушае цэласнасці навучальнага працэсу.

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

Вопыт

# Пасеяць зерне цікавасці



***Пачатковая школа - унікальны мікрасвет, маленькія жыхары гэтай краіны патрабуюць да сябе асаблівага стаўлення. У іх вельмі адчувальная псіхіка. Ужо ў падрыхтоўчым класе можна як пасеяць зерне цікавасці да ведаў, так і адбіць ахвоту вучыцца далей. Якой павінна быць пачатковая школа? Што трэба для таго, каб дапамагчы дзецям асвоіць "азы" ведаў? З гэтымі пытаннямі я звярнулася да настаўніцы мінскай гімназіі №1 імя Ф.Скарыны Кацярыны Пятроўны Свірыдовіч, якая ў 2000 годзе заняла III месца на конкурсе "Настаўнік года" ў межах Мінскага гарадскога агляду-конкурсу на лепшую арганізацыю работы па навучанню дзяцей у падрыхтоўчых класах.***

– Традыцыйная школа, – дзеліцца сваім вопытам Кацярына Пятроўна, – вядомая нам як савецкая, сваёй задачай ставіла навучыць дзяцей пісаць, чытаць і лічыць. Памятаю, як мы ў першым класе спасцігалі азбуку, пісалі асобныя словы і сказы, вучыліся лічыць на палачках. Асабліва вялікае значэнне тады надавалася каліграфіі, таму манатонным перапісваннем аднаго і таго ж мы займаліся цэлы год. За гэта нам ставілі адзнакі.

Аднойчы атрымала двойку за слова "муха", якое напісала не на вузкай лінейцы, а на шырокім (нерабочым) радку. Колькі слёз было.

Тым не менш ужо тады мая першая настаўніца Фаіна Мікалаеўна Кірэева выклікала ў мяне цікавасць да вучобы. Да гэтага часу ўспамінаецца мілагучны голас гэтай жанчыны, які, здаецца, зачароўваў.

У першым класе я вырашыла, што буду настаўніцай, а ўжо ў пятым у мяне з'явілася сапраўдная вучаніца – малодшая сястра, якой я дапамагала засвоіць "азы" ведаў. Памятаю, як літаральна прымушала Свету перапісваць сшыткі – так выпрацоўвала ёй почырк. Але ўсё гэта было для мяне толькі гульнёй. Усур'ёз пра тое, якім павінен быць настаўнік, я пачала думаць у старэйшых класах. Узнікалі пытанні – чаму адзін настаўнік тлумачыць тэму так, што ўсім усё становіцца зразумела, таму вучні любяць яго і цікавяцца прадметам; а другі – арыентуецца ў падачы матэрыялу на самых здольных дзяцей і тым самым выклікае нежаданне вучыцца ў астатніх школьнікаў?

Значыць, справа не толькі ў індывідуальных схільнасцях вучня, а і ў педагагічным майстэрстве. Вучэбны працэс патрабаваў змен.

Вось такія праблемы я паставіла перад сабой і паступіла на факультэт французскай і нямецкай мовы ў цяперашні Лінгвістычны універсітэт. Пасля яго заканчэння прыйшлося папрацаваць толькі паўгода ў групе прадоўжанага дня, бо хутка ў мяне нарадзілася дачка. І потым, нягледзячы на прапановы ісці вучыць старшакласнікаў, вырашыла ўсё ж працаваць з маленькімі дзецьмі. Каб рабіць гэта больш прафесійна, скончыла факультэт пачатковых класаў інстытута імя М.Горкага (БДПУ імя М.Танка). З таго часу прайшло ўжо дваццаць гадоў...

**- А як маладая настаўніца шукала свой падыход да арганізацыі заняткаў? Якія напрацоўкі маеце сёння?**

– Пачынала вучыць так, як вучылі і мяне. Традыцыйна. З цягам часу стала разумець, што роля пачатковай школы заключаецца не толькі ў тым, каб даць пэўны набор ведаў па прадметах. Яна павінна навучыць дзяцей працэсам мыслення, што дапаможа іх далейшаму навучанню ў школе і зробіць яго паспяховым. Маю на ўвазе развіццё логікі, творчых здольнасцей, фантазіі. Як настаўніца я паставіла перад сабой задачу – ажывіць падачу матэрыялу з улікам узросту дзяцей і з улікам таго, хто да мяне прыйшоў – пераважна лінгвісты па складу розуму ці матэматыкі. Зыходзячы з сітуацыі, шукаю спосаб "падцягнуць" іх па прадмету, у якім яны менш арыентуюцца. Урокі стала праводзіць у гульневай форме, уключаць у дзеянне казачны сюжэт, працу з малюнкамі. Калі, напрыклад, ідзе ўрок чытання, дзеці самі ствараюць словы, карцінкі, прыдумваюць мультфільмы, атрымліваюць творчыя заданні – апісаць прадмет або партрэт, выказаць свае адносіны да прачытанага, даць параду. Па рускай і беларускай мовах я прапаную сваім вучням тры ўзроўні заданняў – мінімальныя (па сілах для ўсіх) трэнінгі (для тых, хто жадае ведаць прадмет на павышаным узроўні) і творчыя (выконваюцца добраахвотна). Лепшыя творчыя заданні па чытанню і па пісьму ўваходзяць у папку "Спробы пяра". У бліжэйшы час плануецца выдаць зборнік вершаў выхаванцаў пачатковай школы нашай гімназіі, у які ўвойдзе шмат вершаў маіх вучняў.

По матэматыцы сем гадоў таму я абрала для сябе мадэль навучання, заснаваную на аператарнай канцэпцыі ліку кандыдата педагагічных навук А.А.Ходавай. Калі раней дзеці звязвалі лічбы з прадметамі ці рэчамі, дык пры аператарным падыходзе акцэнт пераносіцца на працоўную дзейнасць людзей, якая ператварае адны матэрыяльныя аб'екты ў іншыя...

На пачатковых этапах дзеці гуляюць з машынамі, якія могуць перамаляваць прадметы, зменшыць ці павялічыць іх памер. Просты прыклад. Калі ўвесці лічбавы сімвал 3 як абазначэнне аперацыі над аб'ектам (дрэва), дык на выхадзе з аператара мы атрымаем тры дрэвы. Гульневы матэрыял, што звязаны з аператарам, фарміруе ў мысленні лагічныя структуры, агульныя і канкрэтныя разумовыя дзеянні, з дапамогай якіх дзеці могуць рашаць нестандартныя матэматычныя задачы. У Ходавай мне падабаецца тое, што я, як настаўнік, выступаю арганізатарам вучэбнай дзейнасці і веды перадаю не на словах, а гэтым часам вучні самі праходзяць праз усе стадыі прадметных дзеянняў. Але галоўнае – вынікі новаўвядзенняў. Кантрольныя работы, якія праводзяцца ў канцы першага года навучання школьнікаў, паказваюць высокі ўзровень ведаў па матэматыцы, іх якасць складае 80 працэнтаў.

Цесна звязаны з матэматыкай курс інфарматыкі ў вучэбных гульнях і задачах, які ўваходзіць у адукацыйную праграму "Школа-2100". Я выбрала для сваіх вучняў гэты прадмет, бо наша гімназія працуе над укараненнем новых інфармацыйных тэхналогій у вучэбна-выхаваўчым працэсе. Уся сістэма заданняў разлічана на тое, каб навучэнцы развівалі не толькі вучэбныя навыкі, але і мысліцельныя аперацыі: аналіз, параўнанні, абагульненне, класіфікацыю, развважанні. Дзеці атрымліваюць паняцці аб розных інфармацыйных тэхналогіях, пачатковыя веды ў тых галінах матэматыкі, якія выкарыстоўваюцца ў інфарматыцы і ў камп'ютэрных праграмах.

**- Першы настаўнік, які на працягу чатырох гадоў суправаджае сваіх выхаванцаў, павінен замяняць ім у школе бацькоў, ствараць атмасферу добразычлівасці, камфорту. Які ключык Вы падбіраеце да сэрцаў дзяцей? Падзяліцеся, калі ласка, сакрэтамі ўласнай педагогікі.**

– Лічу, што менавіта дарослыя павінны ўзнімацца на ступень маленькага дзіцяці і гаварыць з ім яго вобразамі, а не наадварот. Я многае магу дазволіць сваім выхаванцам, але толькі калі гэта не перашкодзіць ім вучыцца. Напрыклад, пагадзілася з тым, каб у падрыхтоўчым класе ў дзяцей на парце стаяла іх любімая цацка. Спачатку я забараняла такую вольнасць, але зразумела, што змагацца з гэтым немагчыма – яны ўсё роўна, нават на ўроку, зазіраюць у свой партфель, каб хаця б краёчкам вока ўбачыць дарагую забаўку. Я амаль не ўжываю такіх слоў, як "ты павінен", "ты абавязаны", не сваруся за нявыкананыя хатнія заданні, стараюся не ставіць двоек і троек, не ўказваю на памылкі пры ўсіх. А дасягненні асобных вучняў параўноўваю не з поспехамі астатніх, а з іх уласнымі папярэднімі вынікамі.

І што самае цікавае. Без усялякай слоўнай дыктатуры дзеці стараюцца быць лепшымі. Каб падбадзёрыць іх, я прапаную намаляваць лесвіцу дасягненняў класа, дзе за кожную чвэрць адзначаюцца вынікі вучобы, якія размяркоўваюцца па трох месцах.

А нядаўна распрацавала для сваіх выхаванцаў спецыяльныя заданні па матэматыцы, у ходзе выканання якіх дзецям даецца магчымасць ставіць мэту сваёй вучэбнай дзейнасці і выбіраць сродкі для яе дасягнення... Са спісу заданняў вучні выбіраюць толькі некаторыя і тлумачаць, чаму спынілі ўвагу на тым ці іншым заданні. Выканаўшы іх, яны самастойна падводзяць вынікі сваёй працы і адказваюць, на колькі працэнтаў справіліся з патрабаваннямі. Такім чынам выяўляецца іх самаацэнка і матывацыя да вучобы. Недзе 50 працэнтаў вучняў ацэньваюць свае веды адэкватна, астатнія або завышана (што лепш), або заніжана. Ёсць у нас і свае "зоркі" класа, і кожную чвэрць мы разам вызначаем, хто на гэты раз атрымае ганаровае права змясціць свой фотаздымак у спецыяльную "зоркавую" рамку. І гэта не абавязкова будзе выдатнік. Зусім нядаўна, напрыклад, "зоркай" класа ў нас быў хлопец, які доўгі час дапамагаў насіць партфель сваёй аднакласніцы, у якой была зламана рука.

Ведаеце, яны прызнаюцца мне ў любові, бывае, што і праз бацькоў. У падрыхтоўчым класе Люба Андрэева часта называла мяне мамай. А аднойчы падышлі да мяне дзве сяброўкі, Оля і Вера, і папрасілі дазволіць ім таксама мяне так зваць. Такія адносіны – самае вялікае прызнанне для настаўніка. Развітвацца з дзецьмі цяжка пасля чацвёртага класа. Плачуць усе – я, яны і бацькі.

**Надзея СТРАБКОВА.**

# Адзнакі ў "крэдыт"

У школу прыходзяць розныя дзеці: узбуджаныя, неспакойныя, непаседлівыя, злаславыя і плаксівыя, вялыя, палахлівыя, затарможаныя, няўпэўненыя. Адны, якія хадзілі ў дзіцячыя сады або з імі займаліся бацькі, старэйшыя сёстры, браты – добра падрыхтаваныя да школы. Яны ведаюць літары, некаторыя нават умеюць чытаць, лічыць, у іх багаты слоўнікавы запас, параўнальна эрудзіраваныя. Іншыя – зусім не рыхтаваліся да школы.

Розныя дзеці, а трапляюць у адзін клас. У раённых цэнтрах і ў вёсках няма гімназій, куды маглі б пайсці вучыцца падрыхтаваныя, здольныя пачаткоўцы.

Вельмі складана працаваць настаўніку з такім кантынгентам вучняў. А працаваць вымушаны па аднолькавых падручніках, па адной і той жа праграме.

Добра, калі і не вельмі падрыхтаваныя вучні хутка ўключацца ў работу і пойдуць у нагу са сваімі аднакласнікамі. А калі гэта вучні з абмежаванымі магчымасцямі, фізічна кволыя, з невялікімі здольнасцямі, слабай памяццю? Дыскамфортна адчуваюць сябе гэтыя дзеці ў класе.

Праца настаўніка заключаецца ў тым, каб знайсці сцяжынку да кожнага вучня, стварыць умовы для развіцця яго здольнасцей. Самае галоўнае – даць адчуць кожнаму, што ён – асоба. Творчасць настаўніка тут выступае на пярэдні план. Яна заключаецца ў тым, каб кожнаму вучню на кожным уроку было цікава.

Хуткаплынныя хвіліны. Трэба праверыць хатняе заданне, замацаваць пройдзены матэрыял, растлумачыць новы.

У класах з вышэйакрэсленым "падборам" дзяцей я практыкавала работу ў групах і па парах, стараючыся стварыць атмасферу дружалюбнасці, таварыскай узаемадапамогі. Вучань, які няблага ведае праграмны матэрыял, дапамагае разабрацца ў ім слабейшым. Працуючы па картках, абодва адчуваюць асалоду ад працы. Першы ўдасканальвае свае веды, другі пачынае верыць ва ўласныя сілы і спраўляецца з заданнямі, якія раней яму здаваліся непасільнымі. Гэта маральная перамога!

У групах у кожнага вучня абуджаецца пачуццё ўласнай годнасці, нарастае ўпэўненасць, ёсць адчуванне локця таварыша, які заўсёды гатовы прыйсці на дапамогу.

Вялікае месца ў маіх класах займалі ўрокі-гульні. Гуляючы, атрымліваеш веды, якія лепш успрымаюцца. Тут вылучаюцца маральныя якасці, знаёмства з прафесіямі. Часта вучні апыналіся ў даволі складаных умовах, калі дзеянні аднаго залежалі ад дзеянняў другога.

На адных уроках-гульнях класператвараўся ў салон самалёта, і дзеці павінны былі пасадзіць лайнер у патрэбным пункце. То ён (клас) быў караблём у моры, дзе разбушаваўся шторм, або судна села на мель, то раптоўна знікала асвятленне, калі хірург рабіў складаную аперацыю... У такіх выпадках кожны вучань стараўся правільна адказваць на пытанне, уставіць прапушчаныя літары, рашыць задачу, закончыць сказ, каб дапамагчы ў той або іншай сітуацыі.

Двойкі і пяцёркі аказваюць дыяметральна супрацьлеглыя псіхалагічныя дзеянні: двойка не можа не прыгнятаць, пяцёрка не можа не ўзвышаць.

Да гэтых адзнак я падыходзіла вельмі асцярожна. Як мага менш ставіла двоек і ў асноўным – за ляноту, ды толькі ў дзённікі. Але ў гэты ж дзень вучань заставаўся пасля заняткаў і выконваў хатняе заданне. Так праз рыску ён атрымліваў у гэты дзень дзве адзнакі: 2/4; 2/5. А на наступным уроку ён быў абавязаны адказаць перад класам і папярэдні, і зададзены новы матэрыял. Лянота ў такіх вучняў хутка знікала.

Старалася як мага больш апытаць дзяцей на ўроках. Добрыя адзнакі іншы раз "у крэдыт" атымлівалі слабыя вучні. Гэта служыла стымулам. На наступных уроках яны былі больш актыўнымі.

У сшытках таксама пакідала дзецям такія запісы: "Малайчына!", "Ужо намнога лепей!", "Я рада за цябе!" і г.д. (Вельмі добра, што зараз уводзіцца дзесяцібальная сістэма ацэнкі ведаў школьнікаў. Я гэта падтрымліваю).

Кантрольныя работы па матэматыцы я давала па картках. Кожнаму сваё заданне, па здольнасцях. Гэта папярэджвала спісванне, і я ведала, што засвоіў вучань, а над чым яму яшчэ трэба папрацаваць.

Дыктанты былі аднолькавыя. Але падыход да адзнак – розны. Заводзіўся сшытак, у якім я вяла ўлік ведаў вучняў: правілы, якія дзеці яшчэ не засвоілі і якімі практычна карыстаюцца на пісьме, аб чым сведчаць дыктанты. Рыхтавала заданні па незасвоеных правілах, па якіх вучні працавалі на ўроках і на падрыхтоўчых занятках. І як прыемна, калі ў дыктоўцы не было памылак па тых тэмах, па якіх яны былі раней.

Для моцных у вучобе дзяцей арганізоўваліся стымулюючыя заняткі, дзе яны рашалі складаныя задачы.

У той час слабыя ледзьве спраўляліся з рашэннем простых задач і прыкладаў.

Поплеч са мной на працягу ўсіх гадоў маёй работы за іх веды змагаліся мае былыя вучні. Яны былі кансультантамі. На ўроках-падарожжах станавіліся рознымі персанажамі: кароль Дзеяслоў, царыца Матэматыка, казачніца Фея. Чыталі з імі першыя кніжкі...

І так працавала ў школе не я адна...

Вось заканчваецца чвэрць або навучальны год. З аддзела адукацыі даюцца зрэзы па мовах і матэматыцы. Яны разлічаны на сярэдняга вучня. Па выніках зрэзаў інспектары аддзела даюць ацэнку рабоце настаўніка, не ўлічваючы магчымасці, здольнасці вучняў класа. Не можа настаўнік ставіць слабаму вучню па такой рабоце нездавальняючую адзнаку. Гэты вучань старанна працаваў, ён выконваў работу па сваіх магчымасцях, і памылак нарабіў менш. Якая гэта радасць для настаўніка! Паставіць яму нездавальняючую адзнаку – гэта значыць нанесці маральны ўдар.

Але, па інструкцыі Міністэрства адукацыі, работа вучня станоўчай не з'яўляецца. Можна зразумець, у якім стане знаходзіцца дзіця ў такім выпадку. А настаўнік-працаўнік? У пачатковых класах педагогі працуюць індывідуальна з кожным. Слабы вучань не адчувае сябе адзінокім у класе, дзе заўсёды пануе цёплы мікраклімат, у цікавых мерапрыемствах адны ўдзельнічаюць у спаборніцтвах, займаючы прызавыя месцы, другія добра малююць, спяваюць... Не ўсім жа быць вучонымі.

Зусім інакш адчуваюць сябе гэтыя вучні з адчувальнымі прабеламі з пачатковых класаў у класах сярэдніх, дзе праграмы яшчэ больш складаныя. І дзеці прыходзяць у тупік – не ведаюць, як сябе паводзіць у няпростых для іх умовах навучання. Яны ўсё больш і больш адстаюць у вучобе. Таму і збягаюць з заняткаў, часта не ходзяць у школу, бадзяючыся па вуліцах... Часта, становяцца "героямі", зрываюць урокі, робяць амаральныя ўчынкі. Іх ставяць на ўлік па справах непаўналетніх. І ў выніку — цяжкія падлеткі. Трэба неяк спыніць гэта!

Чалавекам павінен быць кожны. Паклапаціцца аб гэтым трэба ўжо зараз. Таму, на мой погляд, неабходна змяніць працэс навучання.

Трэба, каб з нулявога класа працавалі класы выраўноўвання. Вучні з абмежаванымі магчымасцямі і здольнасцямі павінны вучыцца ў такіх класах, займацца па лягчэйшай праграме, па больш даступных для іх разумення падручніках. Настаўнікамі ў такіх класах павінны працаваць педагогі з вялікім стажам, вопытныя, цярплівыя, сардэчныя.

**Браніслава БАЙВЕР.**

